


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

№ 12(670)
Сьнежань 2021 г.


Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

# Геройства як адваротны бок нечыей маладушнасьці

Сёньня Амэрыка праходзіць праз экзыстэнцыйны крызіс, і тое, якія наступствы выкліча гэты крызіс, стане вызначальным чыньнікам для далейшага разьвіцьця – або заняпаду – грамадзтва і краіны. Зьмены адбываюцца ва ўсіх галінах і сфэрах, ад забаўляльнай індустрыі й адукацыі, да турэмнай і пракурорскай сыстэмы. Зьмены ня ўсім бачныя, зьмены ня ўсім важныя.

Гэтыя зьмены жыцьця амэрыканцаў праходзяць няспынна і неаспрэчна. Да самага апошняга часу ўвядзеньне зьменаў так званымі "прагрэсіўнымі" коламі, якія насамрэч зьяўляюцца экстрымальнымі дагматыкамі найгоршага гатунку, якія бачаць шлях наперад не празь перамовы й кампрамісы з апанэнтамі, а празь зьнішчэньне апанэнтаў – пакуль што псыхалягічнае і сацыяльнае, але, хто ведае, можа далей чакае і фізычнае вынішчэньне. Бо сапраўды, калі "расіст" або "капіталіст-эксплюататар", або "белы супрэматыст" не здаецца, ня каецца і не канчае самагубствам, дык што іншае застаецца зь ім рабіць, як ня зьнішчыць фізычна? Ня стануць жа "прагрэсіўныя сілы" губляць на такога свой каштоўны час, пераконваючы ды ўгаворваючы.

Пачынаючы з пачатку 1990-х гадоў градус сацыяльнай і псыхалягічнай напружанасьці ў грамадзтве, левардыкальныя сілы стварылі атмасфэру, калі некалькім словам: "расізм", "гамафобія", "белы супрэматызм", "сацыяльная няроўнасьць", "ісламафобія" была нададзеная магічная сіла. Манаполію на ўжываньне гэтых словаў у якасьці абвінавачваньняў левардыкальныя сілы пакінулі за сабою. Калі некага аб'яўлялі "расістам", дык у чалавека, арганізацыі або групы людзей ужо не было іншага выйсьця як толькі апраўдвацца і даказваць, заўсёды беспасьпяхова, што ён – не вярблюд. Але вэрдыкт левардыкалаў заўсёды адзін: "расіст вылузваецца са скуры, толькі каб прыкінуцца нармальнай асобай, але нас не абдурыш!"

Такім чынам самазваная хэўра левардыкалаў у масмэдыях, у акадэміі ды дзяржустановах, бяз усякіх рэфэрэндумаў або плебісцытаў і выбараў набыла надзвычай моцную ўладу над цэлым грамадзтвам, самавольна і аднаасобна вырашаючы, хто мусіць быць рэпрэсаваны за свае выказваньні й пагляды, а хто – абвешчаны ўзорам і прыкладам для ўсіх.

Як дайшло да такога становішча? Як прэзыдэнты ўнівэрсытэтаў і каледжаў сталі праваднікамі радыкальнай левізны ў сваіх установах? Як журналісты перасталі трымацца фактаў і зрабіліся ідэёлягамі? Як пракуроры сталі памагатымі злачынцаў, закрываючы вочы на іхныя дзеяньні, ігнаруючы пакуты ахвяраў крыміналу? Чаму паліцыя стала бегаць ад злачынцаў, як у Фэргюсане, Місуры, замест таго каб лавіць іх? Як палітыкі й грамадзкія дзеячы здолелі пераканаць нас, што сапраўднымі героямі Амэрыкі зьяўляюцца Джордж Флойд, Фрэды Грэй, Брыёна Тэйлар, Трэйван Мартын ды іншыя чорныя злачынцы або іх памагатыя, але не Калюмб, Джордж Вашынгтон, Томас Джэфэрсан, Тэадор Рузвэльт?

Адбывалася гэта паступова, і пазыцыі паступова здаваліся, крок назад за крокам назад, бяз бою. Пачалося з бальшавізаванай акадэміі, радыкалізаваных установаў вышэйшай адкукацыі, дзе прафэсары "пакаленьня 1968 году" і антываенных пратэстаў індактрынавалі сваю студэнцкую паству, глёрыфікавалі бязглуздасьць і вар'яцтва хіпі, "Чорных пантэраў" і "Мэтэаралягічнага падпольля" ((Weather underground"). Маладушнасьць і баязьлівасьць калегаў і адміністратараў у тых вышэйшых установах сталася прычынаю трыюмфальнага шэсьця левага радыкалізму ў вэрсіях крытычнай расавай тэорыі ды культурніцкага марксізму па ўсёй краіне. Цяпер унівэрсытэты, што супрацьстаяць праявам і прапагандзе гэных тэорыяў, можна пералічыць на пальцах адной рукі. Чатырыпяць установаў з больш як пяці тысяч! Маўчыць Першая папраўка да Канстытуцыі ЗША, маўчыць Міжнародная Дэклярацыя Правоў Чалавека. Зьвяе гэтай спрыяла паступовасьць і ўсеахопнасьць, цыклічнасьць узнаўленьня. Радыкалізаваныя студэнты рабіліся радыкальнымі настаўнікамі ў школах, што гадавалі адпаведных вучняў, якія ў сваю чаргу рабіліся радыкалізаванымі студэнтамі, а потым і прафэсарамі, журналістамі, прафэсійнымі спартоўцамі, бізнэс-лідэрамі, рэжысэрамі, пісьменьнікамі, пракурорамі, палітыкамі...

Кожны, хто не падзяляў паглядаў радыкалаў – мусіў лічыцца зь сілаю і ўплывам, якую яны набралі. Мусіў выбіраць паміж прынцыпамі й працай, камфотам, сямейным дабрабытам. І, нажаль, у большасьці выпадкаў людзі абіралі камфорт, бесканфліктнасьць – абіралі капітуляцыю. Гэтак было ў кансэрватыўных прафэсараў, што сталі раптам прызнаваць слушнасьць марксызму " ў некаторых сфэрах", і ў кіраўнікоў паліцэйскіх дэпартамэнтаў, што раптам пагадзіліся на перадачу часткі сваіх абавязкаў і паўнамоцтваў "камунальным лідэрам", пракурораў, што касавалі залог для злачынцаў і пускалі на волю да суду, а часам адмаўлялі ў завядзеньні крымінальных справаў супраць злачынцаў.

Маладушнасьць і канфармізм, капітуляцыю перад цёмнымі сіламі, што апанавалі Амэрыку і наагул Заходнюю цывілізацыю, можна патлумачыць, можна зразумець, але нельга апраўдаць. Асабістая мужнасьць і адвага, якімі славіліся амэрыканцы ад часоў Вайны за Незалежнасьць, абаліцыянізму, асваеньня "Дзікага Захаду", Грамадзянскай вайны, і да дзьвух сусьветных войнаў, кампаніі за грамадзянскія правы й антываеннага руху – яны некуды зьніклі! Баязьлівасьць стала вырашальнай прычынай неабспрэчанага шэрагу левардыкальных перамогаў, маладушнасьць праклала шлях наперад, да новых франціраў абсурду і вар'яцтва.

Нажаль, такому масаваму і каардынаванаму накату радыкалізму змог бы супрацьстаяць толькі адпаведны кансэрватыўны рух, накшталт Партыі Гарбаценьня (Tea Party movement) канца

*заканчэньне на бачыне 2*

# Паўтор правакацыі



З бой фальсыфікацыйнай машыны галасаваньня можа выклікаць ў Беларусі толькі байкот, непрыход на выбарчыя ўчасткі для галасаваньня. Непрыход відочная зьява, факт, які фіксуецца, які схаваць цяжка нават пры элемэнтарным назіраньні. Фальсыфікацыя колькасьці прагаласаваных пры непрыходзе на ўчасткі, доказна выяўляецца і правяраецца (у адрозьненьні ад разьмеркаваньня і характару галасоў, калі галасуюць тайна). Непрыход на ўчасткі даказваецца яўна і рэальна, збайкатаванае галасаваньне ня можа быць прызнаным. Гэта важна ў лёсавызначальных пытаньнях і цягне за сабой высновы, якія падвешваюць рэжым у юрыдычным вакууме і дапамагаюць здаровым сілам змагацца з дыктатурай.

У 2004 годзе сваістага роду людзі насуперак закону забясьпечылі бястэрміновасьць выбраньня Лукашэнкі на пасаду прэзыдэнта, зацягнуўшы пратэстны электарат галасаваць на незаконны рэфэрэндум пад лёзунгам "Ідзі і скажы своё "нет". Шмат хто, не задумваючыся (хоць была адчувальная інфармацыя за байкот ад КХП – БНФ), пайшлі і прагаласавалі, павешалі сабе на шыю вечнага Лукашэнку, бо галасы "малявала" Ярмошына па ўказцы рэжыму. Трэба было толькі забясьпечыць прыход людзей на ўчасткі. І ня важна, як яны прагаласуюць, галасы лічыла фальсіфікацыйная сыстэма, якую праверыць пры тайным галасаваньні і ў рэжыме бяспраўя амаль немагчыма. Застрэльшчыкамі правакацыйнага прыходу на галасаваньне былі Лябедзька, Вячорка, Дабравольскі, Хадыка, Статкевіч і іншыя "энтузіясты".

Цяперашнія прадаўжальнікі шаблённай правакацыі канторы паўтараюць тое самае. Вось што пішуць пра іх ўзахлёб на інтэрнэт-партале "Свабода" (20-XI-2021). Цытата: "Сёньня дэмакратычныя сілы апублікавалі плян на дзень галасаваньня наконт новай Канстытуцыі. Яны заклікаюць далучыцца да стратэгіі дзеяньняў, якую распрацавалі грамадзянскія ініцыятывы «Сумленныя людзі», Zubr, плятформа «Голас» пры ўдзеле Офіса Сьвятланы Ціханоўскай, Народнага антыкрызіснага кіраўніцтва і Каардынацыйнай рады."

А вось іхняя "стратэгія". Цытата: «„Рэфэрэндум“ заплянаваны на пачатак 2022-га года. Гэтае мерапрыемства – злачынства і падман, якое мы, беларусы,ператворым у „вотум недаверу“ рэжыму. „Сумленныя людзі“, „Зубр“, „Голас“ заклікаюць прыходзіць на ўчасткі і рабіць бюлетэнь несапраўдным. Гэтае дзеяньне азначае, што мы ня згодныя з рэжымам і выступаем за ўсталяваньне законнасьці і стварэньне ўмоў для правядзеньня сумленных выбараў».

Такая ёсьць новая інфантыльная "стратэгія" пад кодавай назвай "Ідзі скажы "нет" па насьледдзтву ад старых канторскіх.

Я ўжо ні кажу пра тое, што заклікаць цяпер, у час тэрору, на паўтор Жніўня 2020 года (калі беларусы яшчэ не акрэплі, а рэжым ашчэрыўся) ёсьць небясьпечная авантура (хоць і не выканальная), якая пахне расправай над людзьмі.

Ведаючы нацыянальна нявызначаную сутнасьць гэтых квазі-апазыцыйных асобаў і прыхільнасьць іх (Латушка-Ціханоўская) да Масквы, я неаднаразова паўтараў, што сьледства аб іхняй "дзейнасьці" будзе неўнікнёным. Хаця яны ўжо цяпер заслугоўваюць таго, каб іх спыніць, пакуль ні нарабілі непапраўнай шкоды народу і Беларусі. Яны ўсё больш раскрываюцца, але калі неўзабаве поўнасьцю зойдуць у свой палітычны тупік, тады псэўда-палітычнае існаваньне іх мусіць быць спынена жорстка і незваротна. Настане час, калі гэта зробіцца.

*20 лістапад 2021 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## Геройства як адваротны бок...

***заканчэньне з бачыны 1***

2000-х гадоў. Пэўнай спробаю стала перамога Дональда Трампа ў барацьбе за прэзыдэнцтва ў 2016 годзе, але істэблішмэнт пасьпяхова запаволіў або спаралізаваў усе пачынаньні новай адміністрацыі. Трампа, які, дарэчы, можа быць прызнаны нацыянальным героям за тое, што кінуў выклік велізарнай партыйна-бюракратычнай машыне – падтрымала прыблізна палова насельніцтва Амэрыкі. Але гэтая падтрымка не вылілася ў пэўны структураваны і мэтанакіраваны рух, а хутчэй нагадвала фан-клюб, аморфную масу аматараў.

У гэтых умовах сталі зьяўляцца героі, сапраўдныя героі змаганьня за душу Амэрыкі; нон-канфармісты, асобы, гатовыя рызыкаваць уласнай бясьпекай, а нават жыцьцём, дзеля агульнай справы. Спартоўцы Том Брэды і Тым Тыбаў, журналісты Энды Нго і Лара Логан, прадпрыймальнікі Герман Кэйн і Пітэр Тыль, палітыкі Том Котан і Джош Хоўлі, і дзясяткі іншых, пра якіх мы чулі й ведаем, бо яны – героі. Героі дзеля таго, што насьмеліліся падтрымліваць глузд і лёгіку замест дагматычных установак і модных ідэалягічных трэндаў, што мелі мужнасьць пайсьці супраць пераважаючых і няцерпячых сумліву апініяў, супраць сапраўдных і разьдзьмутых аўтарытэтаў. Героі, бо ўсе астатнія – або пралічыўшыя шлях да падступнай перамогі мярзотнікі ды іхныя памагатыя, або маладушныя баязьліўцы.

Да ліку гэтых герояў без перабольшаньня можа быць далучаны падлетак з Ілінойсу Кайл Рытэнгаўс, што прыехаў дапамагаць у абароне маёмасьці супраць пагромшчыкаў у Кеношы, Вісконсын, трапіў у канфлікт, забіў двух т. зв. "пратэстоўцаў"-пагромшчыкаў і падстрэліў трэцяга. Быў ад самага пачатку абмазаны брудам амаль ва ўсіх масавых мэдыях, трапіў пад суд, быў апраўданы – амаль цудам. Нехта можа сказаць, што гэты падлетак – недасканалы герой. А нават наагул не герой. Да кожнага з пазначаных вышэй герояў, напэўна, можна прычапіцца, знайсьці "слабыя месцы", незайздросныя факты ў біяграфіі, працытаваць неасьцярожныя выказваньні. Але дайце мне іншых, бліскучых, ідэальных герояў зь бездакорнымі біяграфіямі, што спрычыніліся да супрацьву спаўзаньню Амэрыкі да "велізарнага Гандурасу поўначы" ці "кантынэнтальнага Гаіці", і я з радасьцю вып'ю чарку за іхнае здароўе.

А пакуль маем тых герояў, якіх маем – небездакорных, часта неразважлівых і неабачлівых. Яны недасканалыя, але яны не збаяліся і зрабілі так, як падказвала сэрца, а не разьлік. І таму яны героі – бо героі часта ўяўляюць сабою адваротны бок чыёйсьці маладушнасьці і баязьлівасьці, вынікі якіх і даводзіцца разграбаць гэтым самым героям.

***Віталь ЗАЙКА***

Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч - беларускія грамадзкія дзеячы ў штаце Агаё

У складзе гэтай сэрыі "Беларусь - Амэрыка: Лёсы землякоў", якая ўжо пэўны час выходзіць у бюлетэні "Весткі й Паведамленьні"", а спачатку ў газэце "Беларус", дасюль былі пераважна асобы, што адзначыліся на грамадзкай культурніцкай глебе беларускай грамады ў Амэрыцы. Аднак "за кадрам" засталіся людзі, што зрабілі мажлівымі дасягненьні сваіх суайчыньнікаў, што займаліся працай "штодзённай, шэрай", якая не прыцянула пасьля шмат увагі дасьледчыкаў-гісторыкаў. Між тым гэтыя дзеячы былі ня менш важныя і значныя. Сярод іх і прадстаўнікі беларускай грамады ў Агаё, у рэгіёне Кліўлэнд-Стронгсвіль, Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч. Яны належаць да пакаленьня паваеннай іміграцыі, што залажыла падваліны беларускага грамадзкага жыцьця і беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы, якімі мы карыстаемся па сёнешні дзень.

У штаце Агаё знайшлося двое ахвярных людзей, якія стварылі грамадзкі й рэлігійны асяродак, які спрыяў кансалідацыі сярод беларусаў штату. Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч уклалі перш свае ўласныя грошы ў набыцьцё зямлі ў Стронгсвілі, што ў ваколіцах Кліўлэнду, і затым здолелі разбудаваць грамадзкую працу сярод мясцовых беларусаў і стварылі Беларускі Грамадзкі Цэнтар "Полацак", што працягвае сваю дзейнасьць і сёньня.



Кастусь Калоша

Кастусь Калоша нарадзіўся ў 1924 годзе, у вёсцы Нагорная Баранавіцкага раёну. У 1944 годзе скончыў Баранавіцкую гандлёвую школу, і ўлетку таго ж году выехаў на эміграцыю. Пасьля вайны быў у ДП-лягерох ў Рэгенсбургу і Розэнгайме, Нямеччына. Займаўся рэгістрацыяй ДП, выдаваў дакумэнты. Зарганізаваў аркестар пры лягеры. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе й Віндышбэргердорфе. У 1950 годзе прыехаў у Злучаныя Штаты, скончыў інжынэрны курс на ўнівэрсытэце штату Мічыган у Лэнсынгу, пасьля атабарыўся ў Кліўлэндзе (Агаё). Калоша быў сябрам Беларускага Студэнцкага Таварыства, пазьней Беларуска-Амэрыканскага Таварыства (БААТ), а таксама заснавальнікам друкарскай выдавецкай суполкі "Пагоня", дзе друкавалі падручнікі для дзяцей, дапаможныя матэрыялы. Разам з Карніловічам быў фундатарам і адным з заснавальнікаў Грамадзка-культурнага цэнтру "Полацак". Таксама К. Калоша быў стваральнікам архіву беларусаў Кліўлэнда, арганізатарам беларускіх выставаў. Кастусь Калоша браў актыўны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцьці, быў рэгентам царкоўнага хору пры царкве Маці Божае Жыровіцкае, удзельнікам хору "Васілёк". У грамадзкай дзейнасьці адзначыўся дзейным ініцыятыўным сябрам БАЗА і Рады БНР. Шмат разоў ён прыяжджаў у Беларусь з грузам дапамогі ахвярам Чарнобыля, а таксама дапамогі сэмінарыстам у Жыровічах. З хорам "Васілёк" Кастусь Калоша выступаў у Менску ды іншых гарадах Беларусі. Памёр у 2004 годзе, па тэстамэнце ён пахаваны на сваёй радзіме.

Сяргей Карніловіч нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Таргуны Докшыцкага раёну цяпер Віцебскай вобласьці. Падчас вайны, у 1943 годзе, быў вывезены на прымусовую працу ў Нямеччыну. Пасьля вайны быў у ДП-лягеры ў Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, браў удзел у скаўтынгу. У 1949 годзе перабраўся ў ЗША ў



Сяргей Карніловіч

Кліўлэнд. Працаваў у малочнай індустрыі, перавозіў малако. Быў сябрам і таксама старшынём Згуртаваньня Беларускай Моладзі Кліўлэндзкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Стаў адным з ініцыятараў стварэньня прыходу Божай Маці Жыровіцкай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) у Кліўлэньдзе ў 1951 годзе, і доўгі час быў старшынём Парафіяльнай рады. Разам з К. Калошам быў ініцыятарам і фундатарам стварэньня беларускага Грамадска-культурнага цэнтру "Полацак" і стаў ягоным кіраўніком. Пазьней зрабіўся актыўным дзеячам дабрачыннага Камітэту па аказаньні дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі пры парафіі БАПЦ у Кліўлэньдзе. Браў удзел у працы Першага Кангрэсу Беларусаў Сьвету ў Менску ў ліпені 1993 году. Памёр у кастрычніку 1993 году.

Па словах Вітаўта Кіпеля, Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч былі ахвярнымі нацыянальнымі актывістамі, што шчодра ахвяравалі на розныя беларускія грамадзкія і выдавецкія праекты, а ў часы калі Беларусь была для іх закрытая, езьдзілі дапамагаць у грамадзкіх справах беларусам Беласточчыны. Абодва пакінулі значны сьлед у гісторыі беларускай грамады ў Амэрыцы.

**Віталь ЗАЙКА**

# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## І – як імунітэт

Паважаю прывітых, хоць лічу, што экспэрымэнтаваць на сабе непажадана. Асабліва нельга гэтага рабіць на дзецях. Шаную непрывітых – ім у гэтай хвалі абсурду і псыхалягічнага ціску найбольш складана працягваць трымацца сваіх прынцыпаў. Пагарджаю толькі тымі, якія лічаць, што могуць вырашаць, якую форму рызыкі найлепш выбіраць, ня толькі для сябе, але таксама для іншых. Тых, якія кідаюцца словамі-цэтлікамі і лічаць, што толькі яны ведаюць, як трэба паводзіць сябе ў гэтай беспрэцэдэнтнай сытуацыі. Ня ведаю, ці памруць прышчэпленыя ці не прышчэпленыя, бо ў звычайных сьмяротных няма дастатковай інфармацыі, каб ведаць усе дэталі і акалічнасці, якія могуць быць больш зразумелымі вузкаму колу адмыслоўцаў. Магчыма, вакцына бясшкодная, магчыма, рызыкоўная, а, магчыма, атрутная. Кожны сам і згодна са сваёй інтуіцыяй вырашае, што трэба рабіць яму і ягонай сям'і. Тыя, што крычаць пра прымус – гэта і ёсьць новыя фашысты. А псыхоляг сказаў бы, што самыя гучныя тыя, якія найбольш баяцца свайго выбару. Найбольшая шкода аднак, як сёньня здаецца, ідзе ня столькі ад іх ці ад вакцыны, колькі ад сацыяльнага падзелу – які і ёсьць магчымай мэтай штучна выкліканага хаосу. Абязьвераныя людзі больш за ўсё баяцца памерці. Страх сьмерці паралізуе, і многія людзі не заўважаюць, што памерлі ўжо два гады назад, калі ўсё гэта толькі пачалося. Людзям з ідэаламі прайсьцей – у іх ёсьць натуральны імунітэт. Але ці не давядзецца яго неўзабаве абараняць са зброяй у руках?

**Віталь ВОРАНАЎ**




## Запрашаем на прэзэнтацыю

### літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2021 год,

якая адбудзецца **11-га сьнежня 2021 году** ў грамадзкай залі сабору Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Ave***
***Brooklyn, NY 11217***

Пачатак імпрэзы **а 5-й** гадзіне вечара.

**Падтрымайце аўтараў і выдаўцоў сваімі замовамі і зацікаўленасьцю!**

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$18**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**. Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

**Д. Мотуз ..................60**

**Шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**Д. Мотуз ..................30**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich***.